

# Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

**Рост беларускага гандлю з Расеяй афіцыйная прапаганда падае як несумненны посьпех. Маўляў, не губляем велічэзны рынак, а нават нанова яго заваёўваем. Але якая цана гэтай заваёвы? Па зьвестках абласной падатковай інспэкцыі, запазычанасьць мясцовых прадпрыемстваў перад бюджэтам (інакш – перад усімі намі) складае амаль 1 мільярд руб. А ўзьнікла тая запазычанасьць з-за гэтага самага нібыта прывабнага гандлю на расейскім рынку. Але ён амаль на 90% бартэрны. Гэта значыць, што да нас вяртаюцца не жывыя грошы, а вырабы прамысловасьці, якіх дастаткова сваіх, і прадукцыя харчовай прамысловасьці, недасягальная звычайнаму беларусу з-за высокіх цэнаў. Так разумее інтэграцыю нашае высокае кіраўніцтва, ахвяруючы патрэбамі сваёй мэдыцыны, настаўніцтва, культуры, якім не хапае бюджэтнага фінансаваньня на самае неабходнае.**

**Некалькі вышэйшых навучальных установаў, сярод якіх наш Тэхнічны ўнівэрсытэт (нядаўні ММІ), маюць намер утварыць разам з Санкт-Пецярбургам і Масквой нейкі "Славянскі ўнівэрсытэт інтэграцыі". Ужо паведамлялася, што апякунскую раду ў гэтай установе ачоліць Генадзь Селязьнёў, знаёмы нам як непахісны камуніст (нават лявейшы за Зюганава) і гуманітарый (журналіст) па адукацыі. А новая ўстанова будзе як быццам навучаць матэматыка-тэхнічна-электронным навукам. А пры чым тут Селязьнёў – можаце запытацца вы – і пры чым тут славянства?.. А хто яго ведае.**

**У вёсцы Леніна Горацкага раёну, пасьля некаторага перапынку ў савецкай традыцыі, ізноў адбылося "сьвята польска-савецкага баявога сяброўства". Можа цяпер, праўда, яно называецца інакш. А зьмест, мяркуючы па афіцыйных рэпартажах, усё той жа. Па меншай меры ніякага іншага зьместу ў адзначэньне аднаго з трагічных для Польшчы дзён у гісторыі Другой сусьветнай вайны, калі тут пад беларускай вёскай 12 кастрычніка 1943 года палеглі ў баі з фашыстамі сотні і сотні польскіх жаўнераў, цяперашняя беларуская ўлада не ўкладае. Усё тыя ж успаміны пра "баявое адзінства", "дружбу, замацаваную агульнай крывёю" і да т.п. Польшча ўжо ў НАТО і Эўропе, а мы ўсё яшчэ ў СССР. Вось і ня ўзгадваюць афіцыйныя асобы зь беларускага боку, якім чынам і для чаго сагнаў НКВД у дывізію польскіх ваеннапалонных, што патрапілі ў няволю з-за падзелу суседкі-краіны паміж Сталіным і Гітлерам. Спадзяючыся на пасьляваеннае дараваньне, савецкія стратэгі кінулі напаўгалодных, дрэнна ўзброеных палякаў пад нямецкія танкі дзеля занатаваньня ў гісторыі "гераічнага эпізоду" сумеснай барацьбы з фашызмам. Сьвяткаваньне гэтай трагедыі пад акампанімэнт "савецкага славаслоўя" выглядае недарэчным і горкім.**

**Абласны дзяржкантроль распачаў праверку аптэкаў на тэму занадта дарагіх лекаў. Што й казаць, наш чалавек небагаты і кошты лекаў большасьці сапраўды не па кішэні. Але ці можна вырашыць гэтае сацыяльна-эканамічнае пытаньне "кантралёрскім набегам"? Я, напрыклад, перакананы, што гэта дарэмны расход часу, сілаў спэцыялістаў і сродкаў. Лекі дарагія таму, што на іх продаж існуе практычна дзяржаўная манаполія. Некалькі прыватных фірмаў, што працуюць насуперак усяму на гэтым спэцыфічным рынку, з-за дарагоўлі самой працэдуры набыцьця, афармленьня і дастаўкі лекавых сродкаў ня могуць прадаваць лекі танна. Што ж дасьць праверка, калі ўсё ясна безь яе? Зразумела, што таго-сяго пакараюць для выгляду, а лекі застануцца, як і цяпер, і дэфіцытнымі, і дарагімі. А можа яшчэ й падскочуць у цане.**

**У Сьвята-Мікольскай царкве зьявілася новая ікона. На ёй – апошні расейскі імпэратар Мікалай II. Кажуць, пра мёртвых – альбо добрае, альбо нічога. Я ж рызыкну сказаць колькі словаў не пра новага сьвятога, а пра пэрсанаж гісторыі. Яна, гэтая самая гісторыя, захавала царскую мянушку "Мікалай крывавы". Захавала габрэйскія пагромы, што ладзіліся па Расеі з маўклівага патураньня інтэлігентнага цара. Захавала перасьлед нацыянальна-вызвольных рухаў. Захавала бездапаможнасьць і мяккасьць, што прывяло імпэрыю да ленінскай рэвалюцыі і камуністычнай улады, якія прынесьлі незьлічоныя беды ня толькі расейскім народам, але й палове чалавецтва. Цяпер вось беларускія праваслаўныя вернікі моляцца на наноў абранага Сьвятога...**

**Высьвятляецца, што ў нашай жабрацкай краіне ёсьць багатыя "канторы". Адна зь іх – мытня. А можа, там працуюць схаваныя спэцыялісты сельскай гаспадаркі. Вядома толькі тое, што магілёўская мытня ўзяла пад сваё апякунства дрыбінскі палеглы калгас "Беларусь" і выцягнула яго з эканамічнай ямы. Пасьля калектывізацыі на вёску накіроўвалі (каб "личным примером" паказаць, як трэба працаваць) так званых "25-тысячнікаў" – рабочыя заводаў і фабрыкаў. Цяпер вось справа дайшла да служачых. Прагрэс! Хто будзе наступным?..**

**Да сустрэчы, Сымон Глазштэйн.**

## Небясьпечны крытэр

***Кансэрватыўна-Хрысьціянская партыя – БНФ заклікала ўрады краінаў-сябраў АБСЭ не прызнаваць "выбарчы фарс" у Беларусі.***

У заяве КХП – БНФ гаворыцца, што стварэньне выбарчых камісіяў усіх узроўняў было праведзенае пад пільным кіраўніцтвам і кантролем выканаўчых органаў рэжыму. Аналіз пазыцыяў зарэгістраваных кандыдатаў паказаў, што *галоўным крытэрам адбору была іхная прыхільнасьць да аб'яднаньня Беларусі й Расеі.*

КХП – БНФ правёў кампанію па зборы подпісаў за непрызнаньне Дамовы аб стварэньні саюзнай дзяржавы Беларусі й Расеі. Цягам гэтай кампаніі былі сабраныя 33 тысячы подпісаў, якія перададзеныя ў беларускае прадстаўніцтва ААН, амбасады ЗША й Вялікай Брытаніі.

Расея – сьцьвярджаецца ў заяве – сьпяшаецца правесьці акупацыю Беларусі й таму прыкладае ўсе намаганьні, каб надаць бачнасьць легітымнасьці выбарчаму фарсу ў "палату прадстаўнікоў". Прычым, для легалізацыі сваіх злачынных дзеяньняў Расея імкнецца выкарыстаць і структуры міжнародных арганізацыяў, у тым ліку АБСЭ.

***Паводле інф. агенцыяў***

## Што выбрала моладзь

Нядзельным днём я патрапіў на адзін з выбарчых участкаў, што быў разьмешчаны ў ДК "Магатэксу" (раён вуліцы 30 год Перамогі). Жыву я ў іншым раёне, таму прыехаў сюды ня дзеля выбараў (на свой участак, дарэчы, такасама не пайшоў: байкот). Сябры запрасілі мяне на свой канцэрт, які давалі ў ДК на просьбу фабрычнага начальства. Яны, а гэта быў гурт "Округ Свободного Исскуства", скарысталіся запрашэньнем каб проста мець магчымасьць выйсьці на сцэну. Удаецца ім гэта ў нашым горадзе ўсё радзей, бо надта, на думку ідэалягічнай адміністрацыі, "не наша у них музыка".

Ясна, што нядзельная саступка была зьвязаная з выбарамі. Улада спадзявалася такім чынам зацягнуць на ўчастак маладых людзей. Аднак гэта, па маіх назіраньнях, не атрымалася. Моладзі было шмат у ДК – але ў канцэртовай залі, а не ў пакоі для галасаваньня. Менавіта таму мне не дазволілі зрабіць у ім фотаздымкі: "не перашкаджайце выбарцам!" Так і не зразумеў, каму там можна было перашкодзіць, у пустым пакоі... Галодны сабака, што з паўгадзіны вышукваў хоць нешта ў сьметніцы, якая стаяла дакладна на павароце ў выбарчы ўчастак, нікому не перашкаджаў і ня быў адагнаны альбо спужаны мінакамі. Вельмі зрэдку кіраваліся па намаляваным на сьцяне ўказальніку толькі нетаропкія пэнсіянэркі ды самотныя людзі сярэдняга веку. Моладзь тым часам "оттягивалась" на канцэрце. Аднак хутка нейкі чалавек выбраўся на сцэну і папярэдзіў, што канцэрт будзе спынены, калі прысутныя будуць падымацца з крэслаў, танчыць у праходах, піць фруктовыя напоі з пластыкавых бутэлек.

Добра яшчэ, што гэты суворы адміністратар ня чуў, як напачатку канцэрта песьняры й музыкі падзякавалі моладзь за тое, што сёньня яны выбралі... канцэрт. Упэўнены, што ніякага палітычнага сэнсу ў гэтыя словы ня ўкладвалася, проста было шчыра адзначана тое, што было навідавоку. Але ж, калі адміністратар нават у танчаньні ўбачыў "чуждыя паводзіны", дык плакаў бы наш канцэрт.

А так дзень прайшоў недарэмна.

***Дзяніс НОВІКАЎ***
***Фота аўтара***





### МІЛІЦЭЙСКІЯ БУДНІ

## Па аднаму званку...

***Па дзіўнаму супадзеньню ў Бабруйску і Крычаве адбыліся аднолькавыя па манэры і прычыннасьці міліцэйскія акцыі, аб якіх нам паведамілі карэспандэнты. Выпадкі даволі красамоўна дэманструюць дзяржаўную тэндэнцыю ўцягваньня міліцыі, што мае зусім іншыя задачы, у палітычнае жыцьцё.***

**КРЫЧАЎ.** Прыкладна за тыдзень да выбараў памяшканьне, дзе месьціцца нашае культурова-асьветніцкае грамадзкае аб'яднаньне "Кантакт-цэнтар", нечакана наведалі в.а. намесьніка начальніка Крычаўскай міліцыі тав.Сьцефаненка і начальнік пашпартна-візавай службы гэтай жа міліцыі ў суправаджэньні яшчэ нейкага афіцэра.

Міліцэйскае начальства паведаміла прысутным, што раённае ўпраўленьне ўнутраных справаў атрымала паперу з Цэнтральнай выбарчай камісіі аб тым, што па гэтым адрасе нейкія людзі "займаюцца вырабам і распаўсюдам супрацьзаконных улётак, датычных выбараў у Палату прадстаўнікоў". Вось ахоўнікі парадку й прыйшлі праверыць "сигнал".

Міліцыянты запісалі прозьвішчы ўсіх, хто быў у памяшканьні, адабралі для сябе ўзоры друкаванай прадукцыі "Кантакт-цэнтру" і, крыху пагаварыўшы зь людзямі, сыйшлі. Паводзілі сябе яны, трэба адзначыць, ветліва, аднак згоду на магнітафонны запіс свайго візыту не далі.

На разьвітаньне нехта з прысутных, магчыма, спазьніўшыхся на пачатак, яшчэ раз запытаўся пра нагоду візыту. Гэтым разам міліцыянты спасласіся... на тэлефанічны званок некага з суседзяў, які чуў праз сьцяну "иностранный разговор".

Божа мой, падумалася, дзе мы?! Гэтага дзіўнага званка хапіла для таго, каб занятыя кіраўнікі міліцыі пры салідных пагонах кідалі свае надзённыя справы й беглі па нейкім адрасе толькі таму, што там нібыта размаўляюць "не па нашаму". Дажыліся...

***Андрэй КУЗЬМІН***

**БАБРУЙСК.** Не пасьпела рэдакцыя афіцыйна зарэгістраванай недзяржаўнай газэты "Крынічка Бабруйская" асэнсаваць папярэджаньне Дзяржкамдруку "за парушэньне тэрыторыі распаўсюджваньня выданьня", як на парозе ейнага памяшканьня зьявіліся чатыры міліцэйскіх афіцэры, якія патлумачылі візыт скаргай суседзяў (рэдакцыя месьціцца ў звычайным жылым доме) на грукат... кампутара, які выкарыстоўваецца для набору тэкстаў і макетаваньня газэты. Адзін з афіцэраў выклікаў па рацыі міліцэйскага відэаапэратара, якому загадаў занатаваць на стужку ўсіх, хто быў у памяшканьні, і ўсё абсталяваньне кабінэта. Прысутныя чулі міліцэйскія намёкі на верагоднасьць канфіскацыі ўсяго абсталяваньня па незразумелых і непатлумачаных матывах. Верагодна, таму кватэра паступова напоўнілася міліцыянтамі ў колькасьці блізу дзясятка чалавек. Аднак вынясеньне маёмасьці адклалі, паколькі гаспадара кватэры ў гэты час не было.

Выказаўшы на разьвітаньне некалькі парадаў адносна "культуры пражываньня", міліцыянты сыйшлі, не паведаміўшы журналістам, калі яны прыйдуць ізноў, каб зьдзейсьніць сваю пагрозу.

***Тацяна КОПЕЦ***

# Люстра, глядзецца ў якое ўлада ня любіць





Працяглая, заблытаная і складаная гісторыя пабудовы каапэратыўнага жылога дома для маладых сем'яў па вул. Ленінскай, 7-а шчыльна ахутаная сходамі, скаргамі, лістамі ў высокія інстанцыі, паседжаньнямі гарвыканкаму, камісіямі і праверкамі, шматразовым зборам з забудоўшчыкаў усё новых і новых грошай, зьменамі ў правілах і ўмовах крэдытаваньня, сыходам з каапэратыву і выключэньнямі зь яго, вяртаньнямі назад – і неверагоднай цярплівасьцю людзей, якія ўвязаліся ў гэтую справу ажно ў 1988 годзе.

Гісторыя пабудовы дома (13-гадовая!) магла б стаць падставай для напісаньня навуковых трактатаў, па меншай меры, па трох важкіх тэмах: аб талерантным мэнталітэце беларусаў, няўменьні ўлады мець справу з прыватнымі інтарэсамі грамадзянаў, сыстэме кругавой чынавенскай безадказнасьці ў створанай сыстэме "вэртыкалі".

...На тыдні адбыўся чарговы (тысячны?) нэрвовы сход забудоўшчыкаў. Над ім нібы фізычна віселі пытаньні, на якія людзі ня могуць атрымаць адказу некалькі гадоў:

– колькі часу трэба для выкананьня адпаведных сацыяльных абяцаньняў і распараджэньняў адміністрацыі краіны, законаў і пастаноў ураду;

– хто адказвае за нечуваную, неверагодную валакіту з пабудовай дома, на якой людзі, кінуўшы свае прафэсіі, самі сталі заўзятымі будаўнікамі, і ў якую ўклалі вялікія ўласныя грошы і ўсе чэкі "жыльлё", але так і не адчулі дах над галавой;

– якім шляхам можна рэалізаваць свае канстытуцыйныя правы, акрамя прамых зваротаў да адміністрацыі краіны (пры ўмове, канешне, што гэтыя звароты будуць пачутыя);

– колькі часу, згодна нормам і здароваму сэнсу, адводзіцца на пабудову 25-кватэрнага дому;

– калі і чым завершыцца гэты "каапэратыўны" экспэрымэнт па зьдзьдеку над людзямі?...

*Фота Валадара ЦУРПАНАВА*

# Сьвежы подых пераменаў?..

Дзіўныя рэчы пачалі адбывацца ў Крычаве. Чалавек, які больш-менш адсочвае сытуацыю ў раёне, можа папросту разгубіцца ад незвычайных падзеяў. Напрыклад, мясцовая ўлада, якая ў нас традыцыйна рэакцыйная і наскрозь камуністычная, прыняла рашэньне аб новым найменьні сваёй афіцыйнай газэты. Яна, заснаваная ў 1931г., праз усе папярэднія гады й перамены ўзьнёсла пранесла гордую назву "Ленінскі кліч". А цяпер вырашана даць ёй новае імя, сьціплае і падкрэсьлена аідэалягічнае – "Навіны Крычаўшчыны".

Гэтае наваўвядзеньне дасьведчаныя людзі зьвязваюць з прызначэньнем у раён новага кіраўніка Івана Пракопава. Ён ужо пасьпеў пазьнімаць з выканкамаўскіх пасадаў некалькіх чыноўнікаў, якія асабліва вызначаліся прыхільнасьцю да "ленінскай спадчыны".

Застаецца толькі спадзявацца, што ў адпаведнасьці зназовам газэты зьменіцца й ейны зьмест.

**Лявон СЬВЕЦІК**
*Фотаэцюд аўтара*



# Сустрэліся дзьве процілегласьці...

Нашыя Чавусы – зусім невялічкі і непрыкметны гарадок. Навінаў тут мала, людзі жывуць ціха-мірна, нават выбары ня надта ўскалыхнулі іх. Але раптам зьбегліся дзьве падзеі, што з розных меркаваньняў выклікалі цікавасьць і ажыўленьне ў розных, так бы мовіць, катэгорыяў чавусцаў.

Адны ўзрадаваліся таму, што нарэшце і ў нас зьявілася раённая Дошка пашаны. Гэтыя ідэалягічныя каменныя сымбалі нядаўняга часу вярнуліся ва ўсе райцэнтры раней. Вось і Чавусы дачакаліся: цяпер перадавікі сельскай гаспадаркі, прамысловасьці і найлепшая інтэлігенцыя красуюцца ў каляровых фотах на ганаровай Дошцы.

Знайшлася нагода парадавацца й тым, каго гэтая падзея не закранула. У райцэнтры распачалося будаўніцтва касьцёла. Яно даўно было намечанае, але ўсё адкладалася. І вось, нарэшце, – узрадаваліся ня толькі вернікі гэтай канфэсіі, але ўсе прыстойныя гараджане — на месцы драўлянага Крыжа, які пазначаў будучую будаўнічую пляцоўку, пачаліся падмуркавыя работы.

...Добра, калі ў жыцьці адно ўраўнаважвае другое.

**К.АНДРЭЕЎ**

# Вось такі сюрпрыз

Супраць двух высакапастаўленых бялыніцкіх чыноўнікаў высунутыя крымінальныя абвінавачваньні па банальным артыкуле – за крадзеж (хаця і ў буйных памерах).

Намесьнік старшыні райвыканкаму, ён жа начальнік райсельгасхарчу, і старшыня аднаго з калгасаў па ўзаемнай змове скралі ў гаспадарцы 18 тон грамадзкай бульбы з мэтай яе продажу для свайго прыбытку. Саўдзельнікі былі затрыманыя крыху больш тыдня таму. Абодвух з улікам абставінаў справы і асобаў выпусьцілі з-за кратаў пад падпіску аб нявыязьдзе. Сьледзтва вядзе Міністэрства ўнутраных справаў.

Абодва начальнікі прыйшлі на свае пасады меней як год таму. У калідорах выканкама адчуваецца гэтымі днямі разгубленасьць і насьцярога. Непрыемны сюрпрыз, які паднесьлі калегам двое падазраваемых, агарнуў чынавенства сумам і маўклівасьцю. Усе з напругай чакаюць вынікаў расьсьледаваньня.

**Міхась КАРПЕЧАНКА**

# У чым правінаваціўся герб?

На паседжаньні Клімавіцкага раённага выканаўчага камітэта прынята рашэньне аб распрацоўцы новай геральдычнай сымболікі горада і, чамусьці, раёна.

Герб старажытных Клімавічаў вядомы яшчэ зь сярэднявечча: залатая пчала ў блакітным небе. Ён быў падораны гораду разам з "магдэбурскім правам" – актам на самакіраваньне й самастойны гандаль. З чым зьвязаная выява мёданоснага насякомага, сёньня сказаць цяжка. Аднак герб – гістарычная сьвятыня – ва ўсім сьвеце лічыцца недатыкальным. Як гаворыцца, ня намі дадзены...

Аднак непавага да гісторыі, якую дэманструе цяперашні рэжым, што спрабуе сьцерці з памяці беларусаў Пагоню і бел-чырвона-белы сьцяг (ці выклікаць да іх нянавісьць), як бачым, заразная як небясьпечная хвароба. І вось зараз выканкамаўскія чыноўнікі спрабуюць зьнішчыць апошні масток, што зьвязвае Клімавічы зь яго багатым, складаным, славутым мінулым.

Дарэчы, расейская адміністрацыя Краю ўжо двойчы зьмяняла клімавіцкі герб. Першы раз гэта было зроблена ў 1781 годзе, калі горад, пасьля далучэньня беларускіх зем-



ляў да Расеі, зрабілі павятовым. Тады да пчалы дадалі расейскага імпэрскага арла. У канцы 1795 года Магілёўская і Полацкая губэрні былі аб'яднаныя ў адну – Беларускую, а Клімавіцкую адміністрацыйную адзінку скасавалі. Пазьней уездны статус гораду вярнулі, як вярнулі і права карыстацца гербам. Вось тады былі ўнесеныя паўторныя зьмены ў геральдыку, з дапамогаю дэталяў тагачаснага губэрнскага герба і аляксандраўскай ленты.

Пакуль невядома, якія навацыі плянуюць гэтым разам унесьці ў заплянаваны зьдзек над сьвятыняй. Многія клімаўцы з гэтай нагоды, сумна усьміхаючыся, прапануюць не забыцца на асноўны мясцовы здабытак: гарэлку й іншыя "горячительные" напоі.

Ці не з пастаяннага іхняга ўжываньня прыйшла некаму ў галаву яўна нецьвярозая ідэя "удасканаленьня" гістарычнай знакавай адметнасьці ні ў чым невінаватых раёна і горада...

**Андрэй КУЗЬМІН**

СЛОВА НА ДАРОГУ

# Калі і што пачуем ізноў...

У сераду ў магілёўскім Доме саветаў у прысутнасьці віцэ-прэм'ера Аляксандра Папкова выконваючым абавязкі старшыні аблвыканкама быў прызначаны Дзьмітры Сівіцкі. Такім чынам была прынятая добраахвотная адстаўка Міхаіла Дражына, які прабыў на пасадзе старшыні аблвыканкаму крыху больш за год.

Падобнага прыкладу больш ня ўзгадваецца: усё начальства церпіць на сваіх месцах, пакуль яго ня выведуць з паседжаньня пад сафітамі тэлекамэраў, альбо не "завядуць справу". А тут сам чалавек, дарэчы, чысты сельскагаспадарнік, адчуў, што больш сілаў няма, што "забясьпечыць выкананьне запатрабаваньняў Лукашэнкі ня ў стане" і адкрыта ў тым прызнаўся. Мажліва, канчаткова і адчайна адчуў, што насамрэч уся наша бяда не ў "нізкай патрабавальнасьці да кадраў", а ў грэбаваньні эканамічнымі законамі, у адсутнасьці структурных зьменаў, стрымліваньні маёмаснага і арганізацыйнага рэфармаваньня калектывізаванай сельскай гаспадаркі.

Гэтыя думкі ён некалькі разоў адкрыта выказваў і нават імкнуўся падштурхнуць раённае і калгаснае начальства на сьмелыя экспэрымэнты. Аднак пасьля Старавойтава і Лявонава такіх ахвотнікаў на радзіме Лукашэнкі больш не знаходзілася.

Відаць, нехта старанна і пільна папраўляў кожны раз М.Дражына, бо ўсьлед за такімі выказваньнямі гучалі зь яго ж вуснаў зусім процілеглыя, цалкам у рэчышчы дзяржаўнай "генэральнай лініі".

Гэтая вымушаная неабходнасьць быць адначасна гаспадарнікам і палітыкам (пры тым, што палітык у нас насамрэч адзін) накладалася на М.Дражына цяжарам, які ён, як нам думаецца, ня змог і не захацеў больш несьці.

...Два старшыні аблвыканкаму, што за кароткі час праімгнулі на магілёўскіх вачах, праявілі абсалютна розныя чалавечыя якасьці і рысы, хаця скончалі, як тое гаворыцца, "адну школу". Выдатнікам быў, безумоўна, першы – Аляксандар Кулічкоў, затое цяпер ён і памочнік не абы каго.

Хаця хто ў наш час ведае, чым і як можа скончыцца любая, здаецца, самая звычайная і будзённая сытуацыя. Можа, мы і пачуем яшчэ пра Міхаіла Дражына. Хацелася б, каб тое была прыстойная пагалоска.

**Тыднёвік**

Рэдактар Генадзь СУДНІК




Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА
«КОЛА СЯБРОЎ».
*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*
*Штотыднёвік*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў,
вул. Першамайская,
6-22.



Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 41. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 19.10.2000 г. а 17.05.